 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 46 (1290) ГОД XXV БЕЛАСТОК 16 ЛІСТАПАДА 1980 г. ЦАНА 2 зл.



## ЦАНА СЯЛЯНСКАЙ ПРАЦЫ

Ад першых яго слоў у зале стала ціха. Усе зразумелі, што варта паслухаць гэтага чалавека. Высокі, з маршчыністым тварам, з пасівелымі валасамі, якія сведчылі аб яго жыццёвым вопыце, селянін з вёскі **Качэры** ў гміне Драгічын — **Збігнеў Міраш.**

— Я селянін ад дзеда-прадзеда, — заявіў ён, — і сёння мне сорамна, што наша краіна вымушана купіць за цвёрдую валюту аж 8 мільёнаў тон збожжа! Гэтага ж яшчэ ніколі ў нас не было. Ці сапраўды мы не ў сілах пракарміць свой народ? Ці амерыканскія, канадскія, нямецкія, ці яшчэ нейкія іншыя хлебаробы лепшыя за нас? То ж хапіла б, каб кожны селянін у Польшчы толькі на адзін цэнтнер даў больш збожжа з кожнага гектара — і ўвесь клопат з галавы, не мелі б мы праблемы з недахопам збожжа.

У зале сабраліся такія ж, як і ён, Збігнеў Міраш, сялянскія актывісты, дзеячы сельскагаспадарчых гурткоў, якія прыехалі з розных куткоў Беластоцкага ваяводства, каб супольна абмеркаваць усё тое, што зараз для вёскі найважнейшае, каб вярнуць і замацаваць сапраўдную ролю і значэнне сялянскага самакіравання, якое найлепш выяўляецца ў шматгадовай дзейнасці сельскагаспадарчых гурткоў. Трэба толькі замацаваць за гэтай арганізацыяй яе вясковы, сялянскі характар, хай будзе яна поўнасцю самастойным і незалежным саюзам сялян-аднаасобнікаў, хай цвёрда бароніць патрэбы жыхароў вёскі, каб маглі яны з карысцю для сябе і для краіны прадукаваць хлеб, бульбу, мяса і малако.

Калі Збігнеў Міраш сказаў пра гэты дадатковы цэнтнер збожжа з кожнага гектара, які развязаў бы нашы недахопы кармоў, праз залу праляцеў шопат недаверу. Селянін з вёскі Качэры, відаць, спадзяваўся гэтага, бо зараз жа дабавіў:

— Толькі пустымі заклікамі да сялянскага сумлення нічога мы не даб'емся. Бо ці аплоціцца зараз гаспадару змагацца за высокі ўраджай? Фармальна дзяржаўная цана на жыта зараз — 450 зл. за цэнтнер. Толькі я яшчэ не сустрэў такога селяніна, які сапраўды атрымаў бы гэтыя 450 злотых. І ў ГСах, і ў іншых установах па скупцы збожжа заўжды знойдуць сто прычын, каб абарваць некалькі дзесяткаў злотых. То зярно занадта вільготнае, то яно недачышчанае, а то няспелае і так далей. Я сам ніколі не ўзяў больш за цэнтнер жыта, як па 400-420 злотых. І хто можа абараніць нас перад такой крыўдай? Гэта заданне нашай сялянскай арганізацыі! Ды справа яшчэ не зусім у гэтым. Я сам, для ўласнай цікавасці, правёў падлікі таго, колькі нам каштуе збожжа, купленае ў заходніх краінах.

Гэтая праблема, праблема цаны сялянскай працы, яе пашаны і суадносін з прадуктамі прамысловасці найчасцей паўтаралася ў выказваннях удзельнікаў гэтай сустрэчы, якую ў Беластоку наладзіла рада Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых гурткоў. Нават старшыня гэтага саюза **Мар'ян Кукля** ў сваім выступленні звярнуўся да анекдатычнага, але, на жаль, праўдзівага прыкладу з цаной суровага лемеша да звычайнага плуга. **Каб купіць гэты кусок жалеза, трэба прадаць паўцэнтнера жыта.**

— Адносіцца гэта не толькі да лемеша. Так яно ёсць з усімі сельскагаспадарчымі прыладамі і запаснымі часткамі, якія найчасцей трэба змяняць. Цэны на гэтыя дэталі павышаюцца найбольш і ўсё яшчэ найцяжэй іх атрымаць. Да высокай цаны даводзіцца дакладаць яшчэ хабар для прадаўцоў і магазінераў, бо інакш скажа, што няма і пайшоў ты к чорту!..

Гэта словы маладога гаспадара з вёскі Каянка ў Сямяціцкай гміне — **Мікалая Жабінскага,** які з'яўляецца членам Цэнтральнай рады саюза сельскагаспадарчых гурткоў. У перапынку мы сустрэліся, прадоўжылі гутарку.

— Сёння, — кажа ён, — едучы ў Беласток на сустрэчу ваяводскага актыву, я пазнаёміўся з поглядамі Палітбюро партыі і Прэзідыума Галоўнага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва на **асноўныя праблемы сельскагаспадарчай палітыкі ў нашай краіне.** Змест гэтага дакумента абнадзейвае. Бо дагэтуль больш патрабавалі ад хлебаробаў, як давалі ім узамен. Вы ж самі чулі, што гаварыў старшыня Кукля: у жніво і пазней не маглі выехаць у поле каля 500 трактараў і 600 трактарных прычэпаў толькі таму, што не хапіла розных запасных частак. Вядома, што аб нашых сялянскіх справах шмат гаварылася на XV Пленуме Цэнтральнага камітэта партыі, што пасля Сейм прыняў па гэтай справе спецыяльную пастанову. Аднак на практыцы выйшла інакш. Вёска не атрымала звыш 50 тысяч абяцаных трактараў, не хапіла да плана 60 кг мінеральных угнаенняў у пераліку на кожны гектар, а пра пастаўкі будаўнічых матэрыялаў, асабліва цэменту і цэглы, пра сродкі аховы раслін і лякарствы для жывёлы — лепш ужо не ўспамінаць.

Далучыўся да нас гэты ж Збігнеў Міраш з вёскі Качэры.

— Толькі тым, што сялян бачаць з гарадскіх, багата абсталяваных кабінетаў або з вокан службовых лімузін, — кажа ён, — толькі ім здаецца, што селянін мае падушкі, напханыя грашыма. Далёка шукаць не буду. Прывяду вам прыклад з уласнай гаспадаркі. Яна не найгоршая ў гміне. У мяне 12 гектараў зямлі. Маю ўласны трактар і шмат іншых машын. На падатак і іншыя дзяржаўныя аплаты аддаю кожны год 20 тысяч злотых, мінеральныя ўгнаенні каштуюць мне таксама нейкіх 20 тысяч, за паслугі для СКРу — 15 тысяч і астаецца мне нейкіх 70-80 тысяч нібыта чыстага прыбытку. Падзяліце гэта, калі ласка, на 12 месяцаў і што выходзіць? Шэсць-сем тысяч злотых на сям'ю ў месяц. На сям'ю, а не а д н а г о чалавека. І за працу не па сем-восем гадзін 5-6 разоў у тыдзень, а за 12-15 гадзін у суткі, без свабодных субот і святочных дзён. А за гэтыя грошы трэба яшчэ купіць сабе машыны, пабудаваць будынкі і ўсё іншае...

Перапынак скончыўся, і мы зноў вярнуліся ў залу. І зноў пасыпаліся кан-

(Працяг на стар. 4)

## КАМУ ШКОЛА НЕ РАДАСЦЬ

З надыходам асенняй слоты і халадоў справа давозу дзяцей у школы з новай сілай пачала бударажыць грамадскасць вёсак, і ў першую чаргу дзяцей і іх бацькоў. Ёсць, вядома, школы, дзе гэтыя справы ў большай ці меншай ступені ўпарадкаваны. Найлепш выглядае давоз дзяцей у тых школах, дзе ёсць уласныя школьныя аўтобусы. Праўда, аўтобусы гэтыя самі не ўпраўляюцца сабраць дзяцей у зборныя школы з усіх вёсак, у значнай меры ім дапамагаюць трактарныя прычэпы з сельскагаспадарчых гурткоў. Але там прычэпы, менш прыстасаваныя да перавозу людзей і неабаграваныя, ездзяць на кароткія адлегласці.

На жаль, ёсць яшчэ нямала вёсак, дзе дзеці давозяцца выключна такімі прычэпамі ды яшчэ на далёкія адлегласці часта акружнымі дарогамі. Вось прыклад з Вулькі Выганоўскай і яе ваколіцы.

Некалі і тут была васьмікласная школа. Будынак школы, зграбны і вясёлы, і цяпер упрыгожвае пагорак на ўскраіне вёскі. Але сёння палова гэтага будынка, прызначаная пад вясковую святліцу, страшыць павыбіванымі вокнамі. Праз пустыя аканіцы вецер шматае рэшткі колішняй дэкарацыі, мабыць, пасля апошняй забавы. Як скардзіліся настаўнікі, на той забаве вясковым гулякам спатрэбіўся дадатковы пакой на буфет, дык яны папросту вынялі акно з рамай у адным з класаў і ўвайшлі, як гаспадары. Што ж, падпіўшы, кожны сам сабе гаспадар і на чужым.

І вось гэты „грамадскі аб'ект" штодзень бачаць дзеці малодшых класаў і дашкольнікі, якім тут адведзена месца ў другой палове школы. Глядзяць, як нішчэе з дня на дзень іх школа, нішчэе супольная маёмасць і... прызвычайваюцца да гэтага, робяцца нячулымі на марнатраўства, растуць абыякавымі.

Але гэтыя малышы і іх бацькі лічаць сябе пакуль што шчаслівымі, бо застаюцца на месцы, бо ім не трэба ездзіць штодзень у далёкія вёскі ў школу.

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80



*Галена Кот і Ірына Паўлючук — дуэт з Гарадка. III месца ў катэгорыі сучаснай песні. Фота М. Шаховіча.*

 

## ЧЫТАЧ!

**У сувязі з тым, што ў гарадах была ўстрымана падпіска на прэсу і нашы чытачы непакоіліся, як будзе з выпіскай „Нівы“, паведамляем, што паводле новага распараджэння паштовых улад, „Ніву“ можна выпісаць ва ўсіх паштовых установах.**

**Нагадваем: тэрмін падпіскі на 1981 год канчаецца 25 лістапада.**

## ХРОНІКА

■ 25 кастрычніка адбылося пасяджэнне Выдавецкай секцыі ГП БГКТ. Быў разгледжаны план Беларускага календара на 1982 год і чарговыя зборнікі „белавежцаў“. Да Н. Артымовіч, З. Сачко, М. Гайдука і А. Барскага, кніжкі якіх рыхтуюцца ўжо да друку, дайшоў новы аўтар — Л. Танкевіч. Два яго паэтычныя зборнікі, у тым ліку адзін зборнік вершаў для дзяцей, атрымалі станоўчую ацэнку.

■ 30 кастрычніка Пленум ВК ПАРП у Беластоку звольніў з функцыі I сакратара ВК Уладзіслава Юшкевіча (з увагі на стан здароўя). I сакратаром ВК выбраны Стэфан Завадзінскі, да гэтага I намеснік міністра сельскай гаспадаркі.

### КАЛЯНДАР

**315 гадоў назад**

19.11.1665 пам. Н. Пусэн, французскі жывапісец.

**120 гадоў назад**

18.11.1860 нар. І. Падарэўскі, польскі кампазітар, палітычны дзеяч, піяніст. Юнацтва на Беларусі.

**150 гадоў назад**

22.11.1830 выбухла Лістападаўскае паўстанне.

**80 гадоў назад**

19.11.1900 нар. А. Зэгерс, нямецкая пісьменніца.

**75 гадоў назад**

16.11.1905 нар. Я. Скрыган, беларускі савецкі пісьменнік.

**70 гадоў назад**

20.11.1910 пам. Л. Талстой, рускі пісьменнік.


## Niwa

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**

**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku. Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-960 Białystok, tel 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

„Niwa" — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 30671. Zam. 1761. Nakład 7.800 I-5.







**Весткі з Беларусі.** На кінастудыі „Беларусьфільм“ здымаецца фільм „Дзяржаўная граніца“. Дзеянне другога двухсерыйнага фільма пад назвай „Гамаюн — птушка вешчая“ адбываецца ў 1921 годзе на адной з першых пагранічных застаў на граніцы з Польшчай. На здымку кадр з фільма: урачыстае адкрыццё заставы. У цэнтры — адзін з галоўных герояў фільма Гамаюн (артыст тэатра імя Я. Купалы Аляксандр Дзянісаў). Фота Яўгена Казюлі.

# Польскія вучоныя аб гісторыі Беларусі

23-24 верасня ў Гданьску адбылася XV навуковая канферэнцыя гісторыкаў ПНР і СССР. Абмяркоўваліся пытанні гісторыі народаў Польшчы і Савецкага Саюза і гісторыяграфіі нашых краін. Адзін з рэфератаў — прафесара Ежы Ахманскага з універсітэта імя Адама Міцкевіча — цалкам датычыў мінуўшчыны беларускага народа: „Польскія даследаванні дзеяў Беларусі эпохі феадалізму“.

У разглядаемую эпоху сфарміравалася беларуская народнасць (XIV — пач. XVII ст. ст.) на падставе развіцця унутранага эканамічнага рынку, росту гарадоў, пашырэння кнігадрукавання, а з ім — старабеларускай літаратурнай мовы, на падставе ўзбагачэння матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Словам, у гэты час вызначыліся найбольш істотныя народатворчыя фактары, якім беларуская супольнасць, канкрэтная этнаграфічная адзінка, абавязана сваім самавыяўленнем і самасцвярджэннем побач з суседнімі: літоўскай, польскай, рускай, украінскай этнічных супольнасцей. Добра вядомы сацыяльныя і нацыянальна-рэлігійныя супярэчнасці і канфлікты народатворчага працэсу на Беларусі і выкліканая імі зацятая, шматвяковая барацьба працоўных супраць прыгонніцкага землеўласніцтва, супраць прымусовай паланізацыі, а пазней (канец XVIII — пачатак XX ст.ст.) — русіфікацыі.

Е. Ахманскім разгледжана 35 навуковых пазіцый, што з'явіліся ў друку за апошнія дваццаць год. Лічба публікацый сама па сабе сведчыць аб зацікаўленасці гісторыкаў Польшчы мінулым адной з яе бліжэйшых (і ў геаграфічным, і ў гістарычна-культурных адносінах) суседак. Так, пытанні эканамічнага развіцця феадальнай Беларусі ў тагачасных межах Вялікага княства Літоўскага, грамадска-вытворчых адносін у беларускай вёсцы тае пары даследаваны ў манаграфіі С. Касперчака (S. Kasperczak. Rozwój gospodarki folwarcznej na Litwie i Białorusi do połowy XVI w. Poznań 1965), у паасобных артыкулах Е. Ахманскага, Е. Казімерскага, М. Космана. Аб сацыяльным прыгнёце беларускага селяніна нагадвае вымоўная назва адной з публікацый: S. Kazimierski. Opisanie krzywd wyrządzonych poddanym w dobrach Holszany i Pasikiszki na Białorusi w 1654 roku. „Przegląd historyczny" 1962 z. 4.

Гісторыі сялянскіх антыпрыгонных рухаў, менавіта ўзброенага паўстання на чале з Васілем Вашчылай у Крычаўскім старастве (1740 г.) прысвечана некалькі артыкулаў Ю. Леха, змешчаных у „Пшэглёндзе гістарычным“ (1960, сшытак 2), у „Рочніку Беластоцкім“ (1961, т. 2; 1963, т. 3).

Вылучаюцца наватарскія працы С. Александровіча аб гісторыі беларускіх мястэчак (артыкулы ў „Рочніку Беластоцкім“, 1961, т. I; „Рочніку гістарычным“, 1962, № 3; „Квартальніку гістарычным“, 1968, сшытак 2, і ў іншых навуковых выданнях). Мястэчак разам з гарадамі, паводле руплівых падлікаў аўтара, налічвалася ў палове XVII ст. на землях Вялікага княства Літоўскага звыш 900. Мястэчкі, гэтыя своеасаблівыя „пасрэднікі“ паміж горадам і сялом, пaўставалі побач з маёнткамі ці замкамі буйных землеўласнікаў і феадалаў, альбо на месцах торгаў і знаходжання рамесніцкага люду. Адсюль адзін з істотных вывадаў С. Александровіча, збежны, дарэчы, з пазіцыяй беларускага гісторыка З. Капыскага (З. Копысский. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой пол. XVIII в. Минск, 1966) аб рашаючым уплыве гандлю і рамесніцтва ва ўзнікненні і развіцці гарадоў Беларусі. Тым самым абвяргаецца высуваны даўней паасобнымі гісторыкамі тэзіс аб сельскагаспадарчым характары гарадскіх паселішчаў. Мінулае ж усходнебеларускага горада Шклова ўдастоілася спецыяльнай манаграфічнай працы М. Тапольскай (M. B. Topolska. Szklów i jego rola w gospodarce Białorusi Wschodniej w XVII i XVIII wieku. Warszawa 1969). У першай палове XVII ст. Шклоў налічваў каля 1100-1200 дымоў альбо каля 8800-9200 жыхароў (у сярэднім 8 чалавек на адзін дым) і займаў па лічэбнасці сёмае месца сярод гарадоў Літоўскага княства пасля Вільні, Магілёва, Слуцка, Мінска і Полацка. Дарэчы, толькі 10 прац. тагачасных шклаўчан жыло непасрэдна з працы на сельскай гаспадарцы. Даследчыца асвятліла значную ролю Шклова як важнага цэнтра мясцовага, рэгіянальнага і заграні́чнага гандлю.

Некалькі прац прысвечана гісторыі мануфактурнай і вотчыннай прамысловасці. Дакладчык звярнуў увагу на грунтоўнае даследаванне, выдадзенае пасмяротна, С. Касцялкоўскага аб прадпрыемствах літоўскага падскарбія А. Тызенгаўза (S. Kościałkowski. Antoni Tyzenhauz. Podskarbi nadworny litewski. Londyn 1970, T. 1, T. 2, 1971), заснавальніка звыш 50 мануфактур, з іх толькі ў Гродзенскай эканоміі больш 20: шаўковая і суконная фабрыкі, жалезаробчы, лесапільны і гарбарныя заводы, млыны і г.д. Асобнымі выданнямі


**(Працяг на стар. 5)**


**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“**

**Волька Выганоўская ● Я вам — вы мне ● Конкурс для школьнікаў ● Навучанне беларускай мовы ў 1980/81 годзе ● Больш года пасля пажару ● Танкіст Сініцын ● З расказаў дзеда Раманчука ● Казка для дарослых ● Весткі з Беларусі, бельскага белліцэя, Гайнаўкі, Чаромхі, Белавежы, Дубіч Царкоўных, Ласінкі, Фольваркаў Тыльвіцкіх, Заблудава, Орлі ● Калі прысніцца рыжык ● Мода ● Кастусь прадчувае буру ● Развучваем беларускую песню „Дзве таполі“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 16 XI** — 6.10 TTR. Upr. rośl. s. III. 6.40 Mech. rol. s. III. 7.10 Nasze spotkania. 7.30 Alarm przeciwpożar. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rol. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. W pr. m.in. „Niedźwiedź pana Adamsa". 10.20 Antena. 10.50 Reportaż. 11.10 Piękne głosy — Nelly Miricioiu-Ionescu. 11.55 Dziennik. 12.15 Rolnicze rozmowy. 12.45 Warszawska Starówka. 13.25 Dla dzieci: Przygody Sindbada. 13.50 Turcja — spadkobiercy Atatürka. 14.10 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Henryk IV — król Francji (2).

**Poniedziałek 17 XI** — 13.30 RTSS, TTR — J. pol. l. 10. 14.00 Chem. s. I. 15.20 NURT — Elementy wiedzy o sztuce. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Klinika zdrowego człowieka. 17.45 Arsene Lupin — odc. pt. Dama w kapeluszu z piórami — film krym. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Franz Kafka — Proces. 22.15 Dziennik. 22.30 Czas Norymbergii.

**Wtorek 18 XI** — 6.00 RTSS, TTR, J. pol. l. 10. 6.30 Chem. s. I. 8.10 Dla szkół: Hist. kl. VIII. 9.00 J. pol. kl. V. 9.55 Pr. dla kl. I—III. Czerwone, żółte, ziel. 13.30 RTSS, TTR — J. pol. s. III. 14.00 Fiz. s. III. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub Seniora. 16.55 Skojarzenia. 17.20 Dom i my. 17.35 Magazyn Młodych. 18.15 Królik Bugs przedstawia. 18.40 Polska Kronika Filmowa. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi. 19.10 Świadkowie. 19.30 Dziennik. 20.10 Syberia — dramat hist. TV ZSRR — odc. II. 21.45 Prawdę mówiąc. 22.20 Dziennik. 22.35 Śpiewa Krystyna Janda.

**Środa 19 XI** — 6.00 RTSS, TTR — J. pol. s. III. 6.30 Fiz. s. III. 8.10 Dla szkół: Chem. kl. VIII. 9.00 Fiz. kl. VI. 9.55 Praca — technika, kl. I. 13.30 RTSS, TTR — Mat. s. I. 14.00 Fiz. s. I. 15.20 NURT — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 17.10 Mecz Polska — Algeria — NRD — Węgry. 19.00 Dobranoc. 19.10 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Perła w koronie — pol. film społ.-obycz. 22.10 X.Y.Z. — cz. I. 22.35 Dziennik. 22.50 X.Y.Z. — cz. II.

**Czwartek 20 XI** — 6,00 RTSS, TTR — Mat. s. I. 6.30 Fiz. s. I. 8.10 Dla szkół: Przysp. obr. kl. VIII i I lic. 9.00 Praca — technika, kl. II. 11.00 Dla szkół średnich: Poezja. 12.50 J. pol. kl. I—IV lic. 13.30 RTSS, TTR — Mat. s. III. 14.00 Biolog. s. III. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Turniej zastępowych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn motor. 18.00 Telewizja młodych przedstawia. 18.25 Poligon. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Powrót Świętego — odc. pt. Miasteczko, które zaprzedało duszę — film krym. 21.05 Pegaz. 21.50 Forum korespondentów. 22.20 Dziennik. 22.35 Recital Wandy Bargiełowskiej.

**Piątek 21 XI** — 6.00 RTSS, TTR — Mat. s. III. 6.30 Biolog. s. III. 11.00 Dla szkół: kl. I—II. 11.55 Wych. ob. kl. VIII. 13.30 TTR — Hod. zwierz. s. I. 14.00 Mech. rol. s. I. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 NURT — Ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.25 Gra Cecylia Barczyk. 17.40 Tajemnica Enigmy — odc. II. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Telewizja Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Jedenasta Studia Gama. 21.15 Listy o gospodarce. 21.55 Dziennik. 22.10 Teatr Tel. E. Neyman — Kiedy się ze mną podzielisz. 23.15 Filmoteka arcydzieł: Piękność dnia — fr. dramat obycz.

**Sobota 22 XI** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. s. I. 6.30 Mech. rol. s. I. 7.00 Uprawa rośl. s. III. 7.30 Hod. zwierz. s. III. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Radar. 9.15 Estrada folkloru. 9.45 Klub sześciu kont. 10.35 Wspomnienie z Dusznik. 11.10 Człowiek, ziemia, kosmos. 11.40 Dziennik. 12.00 Studio 2. 15.00 Orbita. Ok. 16.00 Puchar Interwizji w gimnastyce art. 18.50 Dobranoc. 19.00 Studio 2. 19.30 Dziennik. 20.10 Michał Strogow — odc. III — radz. film fab. 21.00 Studio 2. 22.00 Waszyngton za zamkniętymi drzwiami — odc. V.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 14 XI** — 7.25 Film fab. 15.10 Film fab. 17.50 Pr. muz. 18.15 Film fab. 20.30 Piosenka — 80.
**Sobota 15 XI** — 15.10 W świecie zwierząt. 16.40 Filmy anim. 17.05 Pr. muz. 17.50 Film fab. 19.45 Spotkanie z olimpijczykami.
**Niedziela 16 XI** — 12.00 Film fab. 13.40 Klub Podróży. 14.40 Film anim. 15.00 P. nożna. Szachtior — CSKA. 16.45 Panorama międzynar. 17.50 Film fab. 20.50 Przegląd piłkarski.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Pamiętne lato — radz. 18—19. Przygody Robinsona Cruzoe — radz. 20—21. Zwycięzca — radz. 22—23.
**Bielsk Podl.** Zwierciadło — radz. 17—18. Proces poszlakowy — jap. 19—20. Nosferat — wampir — RFN. 21—23.
**Czeremcha** Test pilota Pirxa — pol. 18—19. Na rabunek — radz. 22—23.
**Czyże** Miłosne życie B. Trajkowicia — jug. Trudny jest tylko pierwszy krok — radz. 19—23.
**Gródek** Zrozumiałeś, gratuluję — radz. 22—23.
**Hajnówka** Wyznanie miłości — radz. 17. Była cisza — radz. 18—19. Szli żołnierze — radz. 20—21.
**Michałowo** Zemsta różowej pantery — ang. 18—19. Książę i żebrak — ang. 20—21. Umarli rzucają cień — pol. 22—23.
**Mielnik** Król Lear — radz. 19. Ostatni lot — radz. 22—23.
**Milejczyce** Dramat na polowaniu — radz. Jeśli odejdziesz — radz. 19—23.
**Narew** Wyznanie miłości — radz. Bajka o Mrozie Czarodzieju — radz. 19—23.
**Narewka** Moskwa nie wierzy łzom — radz. Uwaga czarny kot — radz. 19—23.
**Nurzec** Zapamiętaj imię swoje — pol. 18—19. Syberiada — radz. 20—21. Pięć wieczorów — radz. 22—23.
**Orla** Obrót spraw — radz. Step — radz. 19—23.
**Rajsk** Grzeszny żywot F. Buły — pol. 12 krzeseł — radz. 19—23.

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# СТАРАСЦЬ —НЕ РАДАСЦЬ

Старасць — не радасць, і вельмі рэдка старасць бывае вясёлай і шчаслівай.

Чалавек, якога я сустрэў, сядзеў на лаўцы, трымаючы ў сваіх старых руках старую вінтоўку. Я сеў побач яго, не ведаючы спачатку, ці пачаць з ім гутарку, ці не. Часу ў мяне было многа, а час чакання здаецца карацейшым, калі чалавек гутарыць з іншым чалавекам. Стары чалавек заўсёды мае сваю цікавую гісторыю і ад яго можна даведацца шмат цікавага, як з не адной найцікавейшай кніжкі.

Крыху нясмела пачаў я гутарку, пачынаючы ад надвор'я, якое ў той дзень было прыгожае, сонечнае. Сонца грэла неміласерна, людзі шукалі ценю, якога тут, у марскім порце Шчэціна, амаль няма. І толькі вецер ад Одры халадзіў гэтую спякоту. Чайкі плывалі ў вадзе і раз-пораз ныралі ў яе глыбіню. Мы сядзелі, ды гутарылі аб усім, што нясе жыццё і штодзённая праца. Доўга чалавек з вінтоўкай расказваў аб сваіх няшчасцях, турботах і хваробах, якія на старасць з'яўляюцца больш дакучлівымі.

Я стараўся ўсё яму растлумачыць, памагчы рашыць яго нялёгкія праблемы, карыстаючыся асабістым вопытам і прыкладамі з сваёй грамадскай дзейнасці, якая ў гэтым выпадку аказалася памочнай. Калі прыйшоў час развітання, калі гудок парахода даў сігнал, што зараз будзе адбівацць ад берага, я ўстаў. Чалавек падняўся таксама. Падцягнуў ружжо, прыняў паставу на смірна, а яго пальцы кранулі казырок шапкі. Я збянтэжыўся. У яго вачах стаялі слёзы.

Па сённяшні дзень чую яго словы: „Стаю перад панам як перад афіцэрам, ніхто дагэтуль са мною так не гутарыў, дзякую шчыра вам, дзякую за вашы словы". Натоўп людзей стаяў побач нас. Не ведаю, ці я тады быў белы, як снег, ці пунсовы, як ружа. Помню толькі, што нешта глыкнула ў маім горле.

Я стаяў ужо на барту парахода, які адплываў у Свінауйсце, а ён, стары чалавек, стаяў на сваім месцы ўсё яшчэ на смірна з пальцамі на казырку. Людзі глядзелі на нас і пэўна не ведалі, у чым справа, а справа гэтая называецца проста: слова да другога чалавека.

Разгляньцеся, дарагія чытачы, ці вакол вас не чакае нехта вашага слова? Ці няма сярод вас такіх, як той нешчаслівы чалавек, які быў такі самотны сярод 400-тысячнага горада, сярод натоўпу людзей?

**Рышард Бутайла,**
Свінауйсце

(Працяг са стар. 1)

# ЦАНА СЯЛЯНСКАЙ ПРАЦЫ

крэтныя прыклады памылковага падыходу да развязкі складаных праблем сельскагаспадарчай вытворчасці. Шмат чаго рабілася ў нас „для вачэй", „на паказ", каб падабацца гэтым „зверху". Напрыклад, раздзьмухалі мы пабудову вялікіх жывёлаводчых фермаў. Цэмент, цэгла, грошы, многія мільёны капіталаўкладанняў — усё туды, а зараз не маем чым карміць ані кароў, ані свіней на гэтых фермах, бо на палях не праведзены дрэнаж, а сенажаці не меліяраваны. На гэта не хапіла ўжо сродкаў.

— Шмат гадоў усімі спосабамі, — гаварыў Мікалай Куклік з гміны Шудзялава, — наша сельскагаспадарчая палітыка намагалася абрыдзіць нам прыхільнасць да зямлі. Сёння збіраем горкі плён гэтай палітыкі. Вёска пастарэла, апусцела, моладзь уцякла ў горад і хто мае дабываць хлеб наш надзённы?

— Чалавека можна ашукаць, але зямлю не ашукаеш, — дакінуў Хведар Манюшка з вёскі Слаўна ў Дуброўскай гміне. — Зямлі неабходна даць усё, што трэба, і тады яна аддзякуе гаспадару.

Каб так было, сельскагаспадарчыя гурткі прымаюць на сябе абавязак паслядоўнай абароны інтарэсаў сялян-аднаасобнікаў. З такім рашэннем раз'ехаліся дамоў актывісты вясковага самакіравання.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



(Працяг са стар. 1)

# КАМУ ШКОЛА НЕ РАДАСЦЬ

Праўда, некаторыя з іх і цяпер бегаюць у школу за два-тры кіламетры. Як, напрыклад, шасцігадовы Андрэйка Залускі з Чэх бяжыць у школу амаль чатыры кіламетры, адзін, бо больш у Чэхах дзяцей няма, няма нават кампаніі. А дарога яго ў школу вядзе праз лес. І хлопчык спачатку баяўся нават ісці адзін так далёка, праводзілі яго аж за лес тата ці мама, а цяпер ужо і сам бегае.

За тры кіламетры з Паўлінава бегаюць шасцігодкі таксама, але іх ужо трое, ды часам і бацькі ў горшае надвор'е падкінуць канём ці трактарам.

Але найгорш выпадае вучням чацвертага і старэйшых класаў. Яны збі-



*Будынак школы ў Вульцы Выганоўскай.*

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Tomczonek Ż., *Ruch ludowy na Białostocczyźnie 1918—1939*, Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, Варшава 1978, стар. 242, цана 97 зл.

Гэтая публікацыя, падрыхтаваная ў Асяродку навуковых даследаванняў у Беластоку, прысвечана справам людовага руху і сялянскіх выступленняў на Беласточчыне ў гадах 1918-1939. У ёй не закранаюцца праблемы беларускага нацыянальнага руху, які знаходзіўся пад моцным ідэалагічным уплывам КПП, КПЗБ, Грамады, пасольскага клуба „Змаганне".

Sosna G., *Historyczny zarys Kościoła Prawosławnego od zarania dziejów do chwili obecnej na terenie woj. białostockiego*, у: „Wiadomości Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego" с. 46—95, Metropolia Prawosławna, Варшава 1978.

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства праваслаўе прэтэндуе на першае хрысціянскае веравызнанне. Цяпер насельніцтва ваяводства насяляюць у 50% вызнаўцы праваслаўнай аўтакефалічнай царквы ў Польшчы, гэта складае дзве трэціх агульнага ліку ўсіх яе членаў. Аўтар спрабаваў даць агульны нарыс па гісторыі праваслаўнай царквы на Беласточчыне.

Monkiewicz W., Troczewski Z., Kakareko S., *Województwo białostockie. Vademecum turystyczne.* Krajowa Agencja Wydawnicza, Варшава 1980, стар. 115+17 фотаздымкаў, цана 25 зл.

Выданне прысвечана сучаснай Беласточчыне, асабліва справам турызму.

Kondratiuk M., *Nazwy miejscowe i terenowe od apelatywów geograficznych „grąd", „hrud" na pograniczu polsko-białorusko-ukraińskim*, у: „Acta Baltico-Slavica", III, Ossolineum 1979.

Аўтар на падставе геаграфічных назваў „grąd-grądzik" і „груд-грудок" прадставіў матэрыял для даследавання пашырэння гаворак і моўных польска-беларускіх і польска-ўкраінскіх кантактаў і славяна-балтыйскіх узаемаўплываў у галіне тапаніміі і мікратапаніміі на тэрыторыі Беластоцкага і Люблінскага ваяводстваў у іх межах да 1.VI. 1975 г.

Prokopek M., *Atlas Sztuki Ludowej i Folkoru w Polsce*, „Arkady", Варшава 1978, стар. 385, 391 ілюстрацыя, 16 карт, цана 160 зл.

Атлас паставіў сваім заданнем упарадкаваць і папулярызаваць веды пра колішнюю народную культуру і яе развіццё ў цяперашнім часе. Ён адрасуецца тым чытачам, якія цікавяцца таксама захаванымі помнікамі народнай культуры, як і сучаснымі жывымі праяўленнямі народнага мастацтва і фальклору.

Kowalczyk J., Monkiewicz W., *Przewodnik po spacyfikowanych w okresie okupacji hitlerowskiej wsiach województwa białostockiego*, Беласток 1979, цана 15 зл.

У гэтым інфарматары прадстаўлены мясціны, дзе гісторыя пісалася нечалавечна, дзе забойствы, пажары і рабункі дакументавалі амаралізм і бяспраўе па-гітлераўску здзейсненага „геррэнфолька". Аўтары засяродзілі ўвагу перш за ўсё на пацыфікацыях, не паказаны іншыя формы фашысцкага тэрору.

**Р. С.**

## КОЛЬКІ „НІВЫ" НА ЛАСІНСКАЙ ПОШЦЕ?

Лістаношы з Ласінкі абслугоўваюць наступныя вёскі: Ласінка, Камень, Лапухоўка, Катлоўка, Кутова, Рэпіска, Трывежа, Васількова, Барысаўка, Гарадзіска, Крывец, Прыбудкі, Крыніца, Падбаравіска, Навіны, Кавэла і Вулька. Жыхары гэтых вёсак найбольш чытаюць „Ніву" і „Газету вспулчэсную". „Нівы" тут ажно 199 экземпляраў. Найбольш экземпляраў „Нівы" даручае пісьманосец Аляксей Давідзюк. Яе найахвотней чытаюць у Рэпісках, Трывежы, Кавэле, Васількове, Вульцы і Уснаршчыне.

**(яц)**

# Бачанае ў Міхалове

Калі хто не пражывае ў Міхалове, дык розныя недахопы там і сям убачыць адразу. Вось хопіць падыйсці да вясковага таваровага дома ў цэнтры мястэчка. Тут вялікія шыбы, а за імі розныя прамысловыя вырабы, у тым ліку вырабы кухоннага і хатняга абсталявання відаць, як на далоні. Вырабы то відаць, але цэны не надта, бо яны выбляклі і ніяк не расчытаць. Прадаўцы ўжо, пэўна, і да гэтага прывыклі. Для пакупніка цана — рэч істотная. Ён выбірае: купіць ці не купіць? Ці хопіць грошай?

У Міхалове мадэрнізавалі бензастанцыю. Раней запраўлялі гаручым аўтамашыны ўручную. Цяпер пры дапамозе электраэнергіі. Што лепш, дык гэта справа разглядаецца і так і сяк. Добра, калі не выключаюць у мястэчку электрычны ток. Але яго часта выключаюць. Тады ані кроплі бензіна не пацячэ ў карністар. А ўручную заўсёды можна было наліць. Але справа ў чым іншым. Як пад'ехаць да размеркавальнікаў (дыстрыбутараў), калі маглі замяніць размеркавальнікі на больш каштоўныя і сучасныя, дык ніхто нават пальцам не кіўнуў на пляцоўку бензастанцыі. А яна ва ўхабінах. Тут глыбокія лужы адна за другой. Прыдалося б прывезці жвіру і засыпаць ямкі, але аб гэтым не падумалі работнікі міхалоўскай бензастанцыі ЦПН. Яны прывыклі да таго, як было і як ёсць. А прыезджыя бачаць...

У Міхалове прыдаўся б „свежы" позірк і на іншыя „дробныя" недахопы і непаладкі. Да іх яшчэ вернемся. Другім разам.

**І. Непаседа**



БУГ У АГНІ

# СЛЯДЫ, ЗНАЧАНЫЯ КРЫВЁЮ

Анна Іванаўна Алькова, сястра Яшы Макарава, найперш папрасіла сваіх сяброў з вёскі Мінчэва, каб завезлі яе на брацкую магілу на месцы масавых расстрэлаў савецкіх ваеннапалонных у мясцовасці **Танкелі** на заходнім беразе Буга.

— Быў прыгожы сонечны дзень, — апавядае Ян Дзмітрук, селянін з Мінчэва, які запрасіў да сябе ў госці Анну Алькову і яе мужа Краніда Аляксеевіча. — Пачыналася восень, — кажа селянін. — Дрэвы стаялі ў сваім найпрыгажэйшым уборы. Аж гарэлі ад яркіх колераў. Вёз нас мой зяць, Уладзіслаў Лапацюк, што жыве ў Сямяцічах. Побач яго сядзеў я, а ззаду — Кранід Аляксеевіч, яго і мая жонкі. Анна Іванаўна маўчала, не ўключалася ў нашу звычайную гутарку. Толькі ў душы яе, праўдападобна, шалела няведамая людзям бура.

— Анна Іванаўна, што вам? — дапытвалася мая жонка, усхваляваная пабляднеўшым тварам нашай госці.

— Нічога... вам здаецца... усё ў парадку... не хвалюйцеся, — адказала яна нейкім зменены́м голасам, у якім адчувалася гэты клубок болю, што выплывае з сэрца і душыць за горла.

А пасля хвіліны маўчання Анна Іванаўна запытала:

— Ці вы ўпэўнены, што гэты баец, якога вы бачылі ля калодзежа ў вас на панадворку, куды прыгналі яго немцы, ці гэта быў сапраўды наш Яшка? І цэлы, непаранены?

Госця з далёкага горада Тальяцці паўтарала гэтае пытанне ўжо другі ці трэці раз, але Дзмітрукова разумела яе хваляванні і зноў ад пачатку пачала свой расказ пра тое, як яна палола лён, як перапалохалася перастрэлкі, якую вялі салдаты з дотаў, і ўцякла дамоў, як ля калодзежа сустрэла немцаў і рускіх салдат — акопчаных, чорных, абгарэлых, ледзь жывых, а сярод іх пазнала яго, гарманіста Яшку, якога ў Мінчэве так любілі ўсе дзяўчаты.

— А што далей з ім было? — нецярпліва дапытвалася Анна Іванаўна.

— Ты вазьмі сябе ў рукі! — супакойваў сваю жонку Кранід Аляксеевіч. — Адкуль жа ім ведаць, што здарылася з тваім братам? Сама разумееш, такіх безыменных ахвяр фашызму — мільёны.

— Але ён у мяне адзін — мой, родны, хаця і адзін з мільёнаў. Я памятаю, як мы разам хадзілі ў школу, як у галодныя дні, а здараліся, на жаль, у нас такія, мой Яшка аднекуль прыносіў то кусочак хлеба, то нейкае яблыка, або хаця моркву... Аднойчы пабіўся ён з нейкім хлапчуком, бо той абразліва гаварыў пра мяне. І не кажыце мне пра мільёны... Я разумею боль і трывогу іх маці і сёстраў ды ўсім сэрцам ім спачуваю, але ён, Яшка, брацік мой родненькі...

І яна зноў расплакалася, ужо каторы раз, ходзячы па слядах гісторыі, на якіх асталася кроў і яе роднага брата **Якуба Іванавіча Макарава.**

Сядзім мы ў хаце **Марыі** і **Тэафіля Бярэзаў.** На патэльні скварчыць яешня. Гаспадыня адвярнулася ад пліты і паглядзела на Яна Дзмітрука, які нам расказвае пра лёс гэтага байца, пра гарманіста Яшку і пра яго сястру Анну Іванаўну. Марыя Бярэза падносіць ражок свайго фартуха да вачэй, каб асушыць няпрошаную слязу. А можа гэта толькі кропля тлушчу адарвалася

раюцца з навакольных вёсак на скрыжаванне вуліц у Вульцы. З дому выходзяць рана, пераважна ў 6 гадзін раніцы, каб на сёмую дабегчы ў Вульку, бо туды прыязджае прычэпа, каб везці іх далей у зборную школу ў Малінніку. Збяруцца і чакаюць. І ў дождж, і ў мароз пад голым небам: прыедзе ці не прыедзе прычэпа? А здаралася, ды і нярэдка, што не прыязджала. Тады чакалі гадзіну, дзве, тры і разыходзіліся па дамах. У мінулым навучальным годзе так здарылася 29 разоў. У гэтым навучальным годзе, гэта значыць ад верасня, — ужо чатырнаццаць дзён СКР не меў спраўных трактароў ці чаго іншага. А здаралася, што прычэпа з дзецьмі аказвалася і ў рове, бо „няспраўны“ быў шафёр.

А наогул, якое права дазваляе трактарыстам, маючым правы вадзіцеля толькі на трактар, вазіць людзей, а тым больш дзяцей? Усё гэта робіцца ў імя рэформы асветы.

А што канкрэтна рэформа дала вясковым дзецям?

На прыкладзе дзяцей з ваколіц Вулькі Выганоўскай, якія пачалі хадзіць у Маліннікі, можна сказаць, што сядзяць яны за тымі самымі партамі, толькі ў далёкай іншай школе, карыстаюцца тымі самымі дапаможнікамі, вучаць іх тыя самыя настаўнікі, якія ў большасці з імі разам даязджаюць у школу. Адзіная бясспрэчная карысць — ліквідацыя спалучаных класаў. Гэта ўжо многа, дастаткова многа, але...

Але якім коштам? Ці не коштам здароўя дзіцяці?

Бо калі дзеці з ваколіц Вулькі, прыбегшы за некалькі кіламетраў па халадзе ці марозе, вымушаны яшчэ стаяць у чаканні „буды“, а ў лепшым выпадку адразу трапяць у „буду-халадзільнік“ (гэта значыць, прычэпу), дзе зімою ледзяшы звісаюць проста са столі, а сцены пакрыты інеем, і ў такім „камфорце“ трэба ехаць гадзіну ў аб’езд, дык цяжка спадзявацца, што дзеці нашы будуць здаровыя і ахвотныя да навукі.

А з якім сэрцам бацькі адпускаюць дзяцей рана ў школу? Ці могуць быць пэўнымі, што тыя вернуцца здаровыя?

— Хто вам даў права здзекавацца над нашымі дзецьмі і над намі?! — крычалі ў роспачы бацькі на бацькоўскіх сходах.

І што ім маглі адказаць настаўнікі? Як вытлумачыць, якія рацыі выкажыць, каб бацькі згаджаліся марозіць дзяцей? „Цешуся, што ў мяне няма ўласных дзяцей, — сказала мне ў размове адна з настаўніц. — Бо сэрца і так не можа вытрымаць усяго таго, што бачыцца!“

Думкі бацькоў і настаўнікаў згодныя: калі няма магчымасці арганізаваць спраўнага давозу дзяцей у далейшую школу, дык трэба пакінуць іх на месцы, асабліва там, дзе ёсць добрыя будынкі. Нават калі ўжо школа ліквідавана, дык ці не вярнуць яе назад? Няхай не мучацца дзеці і не марнуецца грамадскае дабро — добрыя і патрэбныя будынкі.

Дзеці павінны расці здаровымі і ахвотнымі да навукі. Няхай жа даезд у школу перастане быць кашмарам!

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

# ШТО НОВАГА Ў КЛУБАХ

Аб добрай працы клуба прэсы і кніжкі ў **Моры** ў Чыжоўскай гміне мы пісалі на старонках „Нівы“ ў маі бягучага года („Ніва“ № 20 ад 18 мая 1980 г.) У артыкуле быў сказ аб тым, што тутэйшыя дзеці задумалі арганізаваць у сябе лялечны тэатр. Прыгожы па зместу сцэнічны твор прывезла ім інструктар бельскага аддзела прадпрыемства „Прэса-Кніжка-Рух“ Ія Грыка. Тэатр вядзе інструктар бельскага дома культуры Яніна Плютовіч. Ужо адбыліся першыя рэпетыцыі. Усе дзеці з тэатральным пачуццём вельмі ахвотна збіраюцца ў клубе „Рух“. Сама рэпетыцыя для іх гэта вялікае свята.

*

Клуб „Рух“ у **Старым Корніне** (гміна Дубічы Царкоўныя) знаходзіцца ў пажарнай рамізе і займае даволі прасторныя памяшканні. Клуб — вялікая выгада для вёскі. Вядзе яго Лідзія Барвюк. Існуе тут харавы калектыў „Дружба“, які без прафесійнай дапамогі прабіваецца на эстрады мастацкай самадзейнасці. У старакорнінскім клубе дзейнічае таксама інструментальны калектыў.

У клубе адбываюцца ўсе важнейшыя мясцовыя культурныя і культурна-асветныя мерапрыемствы. У вёсцы актыўна працуе КГВ, ЗСМП, ЛЗС і ОСП. Моладзь ахвотна наводзіць парадак на пляцы вакол рамізы. Яна супольна з пажарнікамі адрамантавала агароджу ды лавачкі ў „зялёнай святліцы“, якая знаходзіцца побач будынка пажарнай стражы. ОСП арганізуе розныя конкурсы і танцавальныя вечарыны. Сёлета старакорнінская пажарная каманда аднатавала рэдкі поспех. Яна заваявала першае месца ў ваяводстве ў конкурсе „Усе ствараем супрацьпажарны фронт“ і ва ўзнагароду атрымала арганы. Вельмі прыдадуцца яны тутэйшаму інструментальнаму калектыву. **(яц)**



**Па роднай зямлі.** На рацэ Нарве каля Тыкоціна ў час наводкі.
Фота М. Гайдука.

ад патэльні? Хто яго ведае. Працершы твар, гаспадыня ў задуменні кідае пытанне:

— І сапраўды, адкуль можна ведаць, што гэты Яшка загінуў якраз у Танкелях?

На хвіліну ўсе змоўклі, бо ніхто не ў сілах адказаць на гэтае пытанне: *„так“* або *„не“*. Першы адзываецца Міхась Мішчук, сусед Бярэзаў.

— А дзе ж бы ў другім месцы! — кажа з поўным перакананнем. — То ж у гэтых Танкелях гінулі яны, быццам мухі! Я сам бачыў, як сотнямі іх расстрэльвалі...

І пачаў ён расказ пра тое, што гітлераўцы найперш загналі савецкіх салдат за драты ў мясцовасці **Сухазебры**, а пасля, калі зноў фронт набліжаўся да Буга, яны рашылі знішчыць астаўшыхся яшчэ ў жывых сведкаў звайго злачынства.

— Я якраз будаваў у Танкелях стадолу, — расказвае Міхась Мішчук. — Я, Воўка і Франак, усе Мішчукі, разам мы ў Шмігельскага будавалі гэтую стадолу. І бачылі ўсё, як на далоні. Адзін раз прыгналі з Сухазебраў аж тры бітком набітыя машыны, а пасля зноў і зноў. Загадалі ім станавіцца ў шарэнгі, як для маршу, і пагналі ў глыбокі роў, а на берагах гэтага рову стаялі ўжо напагатове нямецкія кулямётчыкі.

**(Працяг на стар. 6)**

# Польскія вучоныя аб гісторыі Беларусі

**(Працяг са стар. 2)**

прадстаўлена мінулае двух найбуйнейшых у другой палове XVIII ст. шкляных заводаў Беларусі Урэцкага і Налібоцкага вотчынных уладанняў князёў Радзівілаў: B. Smoleńska. Materiały do huty szklanej w Nalibokach; Z. Kamieńska. Manufaktura szklana w Urzeczu 1737-1846. Warszawa 1964).

Польскія даследчыкі зацікавіліся таксама пытаннямі дэмаграфіі Беларусі феадальнай эпохі. З падлікаў праф. Х. Лаўмянскага вынікае, што на Літве і Беларусі разам з Падляшшам у 1528 г. налічвалася звыш 2 мільёнаў жыхароў, пасля ж Люблінскай уніі 1569 г. — звыш 2,5 млн. чалавек. Сотняй гадоў пазней, як падаецца ў манаграфіі Е. Можага аб дэмаграфічным крызісе на Літве і Беларусі ў XVII ст. (S. Morzy. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w drugiej połowie XVII wieku. Poznań 1965), лічба насельніцтва амаль падвоілася (4546 тыс. чалавек). Але пасля войнаў руска-польскай (1654-1667 г.г.) і шведскай (1655 г.) — ледзь не ўдвая паменшылася, да 2348 тысяч. Няраз у гісторыі плаціў беларускі народ шматпакутнымі ахвярамі, бароняч свае біялагічныя і духоўныя субстанцыі.

Пэўнае, хоць нязначнае адлюстраванне ў польскай гістарычнай літаратуры знайшоў распад феадальнага ладу, рост палітычных рухаў на Беларусі. Маюцца на ўвазе манаграфічнае апрацаванне П. Ласоўскага і З. Млынарскага (P. Łossowski, Z. Młynarski. Rosjanie, Białorusini i Ukraińcy w powstaniu styczniowym. Wrocław 1959), артыкул М. Вежхоўскага ў „Рочніку Беластоцкім“ за 1962 т. 3 і іншыя працы. Пададзены ў дакладзе Е. Ахманскага пералік прац можна, на нашу думку, дапоўніць шырока вядомым даследаваннем С. Кеневіча аб паўстанні 1863 года (S. Kieniewicz. Powstanie styczniowe. Warszawa 1972). У агульнапольскім кантэксце справы С. Кеневіч вылучыў, бадай, упершыню для польскай гісторыяграфіі, з дастатковай адназначнасцю і абгрунтаванасцю, уласна беларускі бок паўстання, давёўшы, што сяляне на Літве і Беларусі ўзняліся **сумесна з палякамі** супраць царызму, відавочна, не дзеля граніц 1772 г., але дзеля вызвалення і з-пад царскага, і з-пад панскага прыгнёту (стар. 747). У студзеньскім паўстанні беларусы вуснамі Кастуся Каліноўскага ўпершыню за сваю гісторыю рашуча выказаліся за вольнае і нацыянальна самабытнае развіццё. Падалі голас, што праз нейкіх паўсотні год загучыць магутная, жыццедайная сімфонія беларускага народа пад сцягам уласнай сацыялістычнай дзяржаўнасці.

У сваім выступленні Е. Ахманскі выказаў засцярогу адносна выдадзенай у мінулым годзе „Гісторыі Беларусі“ М. Космана, не згаджаючыся з канцэпцыяй, перыядызацыяй, з паасобнымі фактаграфічнымі недакладнасцямі кнігі. У свой час і „Ніва“ звярнула ўвагу на некаторыя хібы памянёнай працы (№ 46 і 49 за 1979 г.) Тым не менш варта дадатна ацаніць першую ў Польшчы сінтэзу гісторыі Беларусі — па меншай меры, як слушна заўважыў мой сябра, ёсць падстава да крытыкі.

Застаецца на заканчэнне прыгадаць рэпліку пасля даклада Е. Ахманскага з боку прафесара В. Дзьякава, кіраўніка дэлегацыі савецкіх гісторыкаў на канферэнцыі, аб тым, што сёння можна гаварыць аб фарміраванні польскай навуковай школы па гісторыі Беларусі побач з адпаведнымі, добра вядомымі школамі па гісторыі Расіі, Украіны. Гэтай аптымістычнай заўвагай паставім кропку ў нашай нататцы, спадзеючыся далейшага пашырэння і паглыблення зацікаўлення польскіх вучоных гісторыяй братняга беларускага народа.

**Алесь Каваль**

З РАСКАЗАЎ ДЗЕДА РАМАНЧУКА

# Янка і Галена

Янка — імя ад Івана. Так у апошнюю вайну немцы і прызывалі рускіх „Іванамі“ (а рускія немцаў — „Фрыцамі“), бо сапраўды тых Іванаў у нас найбольш па людзях водзіцца сярод мужчын. А вось імя Галена сярод жанчын даецца толькі выбраным. Калі Галена, то мусіць быць харошая аблічам. Кожная Галена мусіць быць падобна да тае грэцкае „Пракраснае Галены“, з-за якой пачалася Траянская вайна. Такой, „Пракраснай Галенай“ была Янкава жонка.

А вось што расказвае яна сама.

Калі мне было 16 гадоў, то папрасілі мяне быць кумою ў тым самым сяле, дзе я жыла. Сабраліся дзяўчаты і сталі меркаваць: „Хто ў нашым сяле з дзяўчат найхарошчы?“ І ўсе прызналі, што найхарошчая Галена Панкоўская, чым я надта ўцешылася. У 18 гадоў я закахалася ў Янку. Першы раз я ўбачыла яго, як пайшла ў царкву. Сярод усіх хлопцаў ён быў мне найхарошчы, бо меў жоўтыя вусы. Кожную нядзелю мне хацелася ісці ў царкву, каб толькі ўбачыць Янку. А ён таксама слядзіў за мною і ішоў у тую краму, куды і я заходзіла. І так мы пазнаёміліся бліжэй. Дайшло да таго, што ён прыехаў да мяне ў сваты. Як жа мне было адмовіць яму, калі я яго любіла? Да таго, ён быў слаўнай фаміліі. Праўда, бацька яго ўжо памёр, а быў айчым Ігнат, якога людзі паважалі. Меў ён цэлы ўчастак зямлі — 22 гектары, меў брата жанатага Захарку і жылі яны, непадзеленыя, у адным доме. На першых парах пасля шлюбу было цяжкавата: дом вялікі і дзве сям’і. Але жылі ўсе разам, варылі разам і елі за адным сталом. Толькі была бяда, што мой Янка рабіць зусім не хацеў. Бывала, мужчыны ўстаюць малаціць жытка а другой гадзіне пасля поўначы. Запальваюць ліхтарню і на тры цапы змалоцяць да світання дзве-тры капы. Ідуць малаціць: татка Ігнат, Захарка і старэйшы яго сын Максім, а майго Янкі няма. Прыходзяць работнікі на снеданне, сядаюць каля стала і мой Янка сядае. А тата Ігнат кажа яму: „А ты адкуль знайшоўся? Як малаціць, тады няма цябе, а да стала ідзеш есці...“ Тут айчым Ігнат бярэ палку і сцёгае майго Янку. Янка схіліўся, сядзіць і не адыходзіць ад стала. Мне яго шкада, але і стыдна за яго. І я прыгаварвала: „Так яму і трэба!“

Янка не хацеў працаваць на гаспадарцы, шукаў лёгкага хлеба. Ён падаў прашэнне да Упраўлення Белавежскай пушчы з просьбай прыняць яго на лясную службу. Неўзабаве прыйшло паведамленне, што ён будзе прыняты на службу зубровым сторажам.

**У. Г.**




### ЯСНА

Старая Бабуля ў рубрыцы „Якія мы людзі“ з 41 нумара „Нівы“ справядліва і ясна напісала, што цалаванне рук найменш важная справа. Куды важнейшыя ў нас справы выхавання сваіх дзяцей, каб выраслі на салідных і культурных людзей. Крытыкаваць трэба тых, што сябе дрэнна паводзяць і сярод белага дня лаюць старэйшых гадкімі словамі. Добра сказаў Ул. Сідарук, што з такімі хуліганамі-ругацельнікамі нам трэба дзейнічаць адкрыта і адважна, тады мо і вынікі будуць лепшыя.

**М. Панфілюк**

### НЕ ДА КАНЦА

У 39 нумары „Нівы“ з зацікаўленнем я чытаў інтэрв’ю Веры Леўчук „Аб камінарах па-рознаму“. Праўду сказаўшы, не вельмі я быў задаволены такім адказам. Разумею, што кожны начальнік бароніць сваю ўстанову. Так яно ёсць і з дырэктарам камінарскай спулдзельні. У сваіх крытычных матэрыялах аб камінарах я прасіў канкрэтнага адказу, у якіх адрэзках часу, напрыклад, камінар павінен праводзіць кантроль комінаў. Няўжо трэба кожны месяц у вёсцы чысціць коміны? А калі не, дык чаму камінар бярэ грошы за мінулыя месяцы, а ў некаторых выпадках нават наперад. Такія справы вядомы ка-

**(Працяг на стар. 7)**

Імпартгумар

# СУМЛЕННЕ

Я ўвайшоў у кабінет Івана Іванавіча і паглядзеў яму прама ў вочы.

— Хіба я вас выклікаў? — як заўсёды, падкрэслена-афіцыйным тонам спытаў Іван Іванавіч.

— Я сам прыйшоў, — дзёрзка адказаў я, — прыйшоў, каб сказаць вам усё.

— Што? — Іван Іванавіч звёў бровы.

— Вы нікуды не варты чалавек і нікчэмны кіраўнік. Вы — бюракрат!

Твар Івана Іванавіча пачырванеў:

— Як, як?..

— Бюракрат і фанфарон! Я доўга маўчаў. Але хопіць! Я сумленны чалавек.

Іван Іванавіч адкрыў было рот, але я не даў яму запярэчыць.

— Вы думаеце, ніхто не ведае, што наведвальнікі цэлымі днямі чакаюць прыёму, а вы ў гэты час гуляеце ў шашкі з галоўным бухгалтарам? Ведаюць, але баяцца сказаць, таму што вы зробіце з імі тое ж, што зрабілі з Квакіным, якога вы перавялі з інжынера ў грузчыкі.

Іван Іванавіч зніякавеў. Але я, не звяртаючы ўвагі, працягваў:

— Вы акружылі сябе падхалімамі. Вы дайшлі да таго, што рэжаце ўсе вынаходніцтвы і рацыяналізатарскія прапановы, калі вас не ўключаюць у лік аўтараў. За вас пісалі кандыдацкую, доктарскую. Усе кіруючыя пасады на нашым прадпрыемстве займаюць вашы сваякі. Ваша нявестка, якая скончыла кулінарнае вучылішча, узначальвае аддзел па канструяванню электронна-вылічальнай тэхнікі...

Іван Іванавіч збялеў, як палатно, вусны яго задрыжэлі. Але я не шкадаваў яго...

— Вася, Вася, прачніся. Ды прачніся ты, нарэшце.

Я расплюшчыў вочы.

Жонка трэсла мяне за плячо:

— Што гэта ты рукамі размахаўся? Уставаць пара. Сам жа прасіў пабудзіць раней.

Мяне кінула ў халодны пот. У галаву палезлі нядобрыя думкі...

— Маруся, — гукнуў я жонку, — я ў сне што-небудзь гаварыў?

— Не... А што?

— Ды так, нічога...

Супакоены, я ўстаў з ложка і пабег мыцца. Трэба спяшацца. Сёння ў Івана Іванавіча дзень нараджэння. У прафкоме вырашылі з такой нагоды над прахадной маляўнічы транспарант павесіць. Я — адказны за мерапрыемства. Так што трэба спяшацца....

**Яўген Дым**

*— Гэта заўсёды так пры выездзе з тунеля — адразу нічога не відаць...*

# НІЎКА

## ЦІ ЗАГАВОРЫЦЬ РЫБА?

*Сабраў я*
*на сход*
*усіх рыб вадасховішча*
*і ціха спытаў іх:*
*— Няўжо не дайшло яшчэ?*
*Павінны вы*
*загаварыць,*
*каб нарэшце*
*падобнымі быць*
*на братоў на старэйшых!*

*Карп*
*першы*
*азваўся,*
*узрадаваны вельмі:*
*— Далоў патэльні!*

*Я ўвесь счырванеў,*
*нібы вараны рак,*
*і крыкнуў:*
*— Як?!*

*І над вадой*
*у знаёмай паставе*
*я нахіліўся,*
*а карпа...*
*не стала.*

*Астатнія рыбы*
*не пажадалі*
*са мною спрачацца —*
*нырнулі ў глыб-немуць.*
*Ды я*
*спадзяюся,*
*што й тых навучу*
*гаварыць*
*калі-небудзь.*

**Максім Асенаў**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Толькі што ў школу прыехала новая настаўніца.

— Выдатнае папаўненне, — хваліць дырэктар.

— Адкуль вы ведаеце? Яна ж першы раз у школу зайшла.

— Якая-небудзь пасрэднасць такія акуляры насіць не стане.

※

— Мы з мужам заўсёды праводзім водпуск разам. А вы?

— Пяць год назад мы паехалі з мужам адпачываць асобна.

— І як? Мужу спадабалася?

— Не ведаю, ён яшчэ не вярнуўся.

※

Стакгольмскі аўтамабіліст пастукаў у домік на ўскраіне і поўным спачування голасам сказаў пажылой жанчыне, што адчыніла дзверы.

— Я страшна засмучаны, фру, але толькі што заварочваючы, я пераехаў вашу кошачку. Зразумела, я гатоў кампенсаваць...

— Добра, — сказала бабуля, — скруціцеся ў клубочак ля печкі і мурлычце.

ЗАЛІК
ЗАЛІК
ЭКЗАМЕН
СТЫПЕНДЫЯ

*Мінnae поле.*

**Ён быў рознабакова абмежаваным чалавекам.**

## НАВОШТА ТОЙ ГАДЗІННІК

Прыехаў да Кастуся сябар у госці. Засядзеліся яны дапозна за сталом. Раптам госць пытае:

— Скажы мне, Кастусь, як ты вось жывеш, што ў тваім пакоі гадзінніка няма?

— А навошта ён мне? — кажа Кастусь.

— Як то навошта? А як жа ты вызначаеш час?

— А гэта проста робіцца, — усміхнуўся Кастусь і пастукаў кулаком у сценку.

А з таго боку:

— У вас сумленне ёсць ці няма?.. Ужо тры гадзіны ночы, а яшчэ бухаеце, як коні.

## РАСКАЗАЎ

Позні летні вечар на вёсцы.

— Цётка Макрына, — гукае нейкі хлопец праз плот, — забярыце свайго дзядзьку!

— А што з ім? — чуецца па хвіліне жаночы голас.

— Ды п'яны ляжыць.

— Дзе?

— Каля Пятра.

— А Пятро дзе?

— Ды каля дзядзькі ж, — нездаволена буркнуў хлопец.

*Гукапаглынальнік (каб не перашкаджаць суседзям).*

## ПРЫСТОЙНАСЦЬ

— Вы не ўяўляеце, што стала ў наш час з элементарнай прыстойнасцю!

— А ў чым справа?

— Аказваецца, наш начны вартаўнік краў са складу і ў дзённы час!

## З „Весніка Задрыпоніі“ НОВЫЯ ПРЫЗЫ

Умельцы Белавытоцкай фарфаравай фабрыкі зрабілі новы суперкубак для ўручэння абсалютнаму чэмпіёну. Ад стандартных кубкаў мастацка афармленая ёмістасць выгадна адрозніваецца тым, што змяшчае на паўвядра больш.

## ПЫТАННЕ КАСТУСЯ

Чаму палюбіць „зялёнага сябра“ лёгка, а дабіцца ўзаемнасці — цяжка?

*Без слоў.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Галены Раманюк з Кожына змяшчаем песню

## Wszyscy tańczyli całą noc

**Słowa: Krzysztof Logan**
**Muzyka: Adam Skorupka**

Gdy moja babcia miała naście lat,
kobietą stać się chciała póki czas,
na balach już tańczyła tu i tam
i ciągle flirtowała, nawet w snach.
Na świecie walc królował, potem swing,
mijały modne style, nowe gry...
Bdy boogie woogie tańczył wtedy świat,
ludzi ogarnął istny szał!

Wszyscy tańczyli całą noc,
do upadłego, aż po świt!
I o to właśnie wtedy szło,
by nie zapomniał tego nikt!
Wszyscy tańczyli całą noc
w blasku neonów, w świetle gwiazd!
Karnawał mógł trwać cały rok,
jakże był piękny, jakże był piękny świat!

Gdy moja babcia za mąż wyszła już,
powiła czworo dzieci, istny cud,
największą jej ambicją stał się dom,
mieszczańskie podwieczorki i bon-ton.
A potem przyszły wnuki, siwy włos,
i jeszcze jeden babci minął rok...
Na drutach mi robiła ciepły szal
i wspominała pierwszy bal...

Wszyscy tańczyli całą noc...

## „ЗЯМЛЯК“

Задрыпанец пераходзіў вуліцу ў недазволеным месцы, і яго спыніў міліцыянер. Давялося заплаціць штраф.

Калі задрыпанец падыйшоў да таварышаў, якія чакалі на другім баку вуліцы, яго спыталі:

— Чаму гэта цябе міліцыянер спыніў?

— Ды гэта я земляка сустрэў. Мы з ім з аднаго сяла.

## ГУМАР З БАРАДОЙ

Селянін: — Якія ж ты мне боты зрабіў? Гэта ж падэшвы яшчэ цэлыя, а халявы разляцеліся.

Шавец: — Выбачайце! Другі раз горшыя падэшвы вазьму, дык разам зносяцца.

# КУРЁЗЫ

## ІНТЭРВ'Ю З ТАГО СВЕТУ

Амерыканская кінакампанія „Уорнер броз“ надрукавала нядаўна аб'яву аб тым, што ёй неабходны „медыум, які здольны ўвайсці ў кантакт з духам Мерылін Манро“. Кампанія збіраецца стварыць шматсерыйны тэлевізійны фільм пра гэту галівудскую кіназорку, якая скончыла жыццё самагубствам. Дзялкі з „Уорнер броз“ аб'явілі, што хочуць атрымаць падрабязнасці пра гераіню фільма „з першых рук“, няхай нават „з таго свету“.

## РЭАНІМАЦЫЯ СВАСТЫКІ

У падручніку афармлення тэкстаў для школ Ніжняй Саксоніі (ФРГ) вучням, якія малююць арнаменты, рэкамендуюць прымяняць свастыку. Яна, маўляў, з'яўляецца „сімвалам шчасця, дабрабыту і багацця“. Калі ж рэаніматараў фашысцкай эмблемы папракаюць у гэтым непрыгожым занятку, яны, зрабіўшы міну бязвінных людзей, заяўляюць: „Ды што вы! У гітлераўскай Германіі партыйную і дзяржаўную эмблему называлі „хакенкройц“ — „крыж з кручкамі“... А мы ўжываем слова „свастыка“.

## ПРЭМІЯ... ЗА СУМЛЕННАСЦЬ

Героем дня каірскіх газет стаў сціплы служачы аўтамабільных складаў Абд Рабо. Яны нават змясцілі яго партрэт. Чым жа ён вызначыўся? Адмовіўся ад хабару за вываз са склада аўтамашын без афармлення адпаведнай дакументацыі. Дырэктар кампаніі быў настолькі расчулены гэтым учынкам, што распарадзіўся выдаць свайму падначаленаму прэмію ў размеры месячнага акладу.

## Між нямі

**Адзін на рабоце гарыць, іншы стварае дымную заслону.**